Стр.

# Зборнік

# „НАШАЙ НІВЫ"

# № 1.



ВИЛЬНЯ
Друкарня М. Кухты.
1912.

# Старасць-не радасць.

Аб чым гэта думае стары Базыль, седзячы ўсю зіму на печы, а вясною і летам гдзе небудзь на дварэ, або на прызьбі у халадку? Сядзіць ён цэлымі гадзінамі і моўчкі пакурывае такую-ж старую, як і ён, люлечку, і сьліна часта цячэ па кароценькім цыбучку. Падыдзе да яго хто — сын, ці нявестка, ці ўнук, або хто з суседзей, ён скажэ колькі слоў і скажэ ціха, спакойным, роўным голасам. У гэтым голасе не чутно ні задору моладасьці, ні злосьці і крыўды сталога чэлавека, ні жальбы старасьці. Так гаворыць толькі той, хто усё пережыў, усё пахаваў і каму ўжо нічога не асталося у жыцьці. Скажэ ды ізноў сядзіць маўчком, апусьціўшы многа пажыўшую на сьвеці пасівелую галаву.

А была і яго пара! Была у яго моладасьць, былі сілы і здароўе, радасьці і надзеі, былі і нягоды, і іх нават было больш, як дабра. Гучны, поўны сілы голас яго не раз калісь будзіў поле, як с конікам ціха йшоў ён за сошкай, або як востраю касою рэзаў траву у лузі, ці як сякерай зсекаў векавые дзерэвякі у лясох і выдзіраў з зямлі глыбока і моцна засеўшые у ей карчы, каб прыгатаваць для збэжынкі мяккую пасьцельку.

І дзе яно ўсё падзелося?

Ці было ўсё гэта?

Жыў чэлавек на сьвеці, многа бачыў усякай прыгоды, не адно пакаленьне прашло прад вачыма старога Базыля, а прышла пара, і здаецца, што ты якбы і ня жыў на сьвеці, якбы усё гэта раблася у васьне, бо ўсё зліліся у адну чорную пляму, каторая вот-вот гатова патануць у багне прошласьці.

Выйдзе стары Базыль на вуліцу і сядзе на прызбі. Ён ужо нічога ня бачыць, толькі вушы ешчэ злучаюць яго з жыцьцём, каторае шу-

міць і гамоніць усюды, ідзе ды ідзе сваім парадкам, але сам Базыль стаіць з боку, здалёк ад яго. Шарасьцяць па пяску вуліцы калёсы і крэкчуць ад цiжару наваленага гною ці дроў, забарабаніць пустое вядро на плечах маладзіцы, ці дзяўчыны, з рэчкі дакоціцца крык плытнікоў і рыбакоў, дзесь то з боку звонка гучаць дзіцячые галасы, адным словам адусюль даносяцца зыкі жыцьця; ўсе, каму йшчэ трэба прайсьці свой круг, шумяць і гамоняць і робяць сваю работу. Адзін толькі Базыль лішні тут і усім чужы, толькі для аднаго яго міма праходзіць гэтае жыцьцё.

І сядзіць ён, пакурывае старую люльку, абапёршыся на кіёчак, і нешта думае, апусьціўшы у зямлю свае невідушчые вочы. Аб чым жэ ён думае? Можэ аб тым, што ён такі адзінокі і забыты, што усе яго таварышы даўно ужо ляжаць пад крыжамі, і толькі ён, як той стары падгніўшы дуб, растраціўшы сваё лісьця, стаіць між зялёнымі дубамі

і ўжо ня можэ сьпеваць з імі у адзін тон песьню жыцьця.

Адно толькі чуецца у гэтых думках старасьці—чуецца у іх смутак, бо цяжка стаяць над магілаю свайго жыцьця і пазіраць на яго развалiны.

**Тарас Гушча**

29/III 1912.

# Кульгавы дзядзька Раман.

(*Беларускіе тыпы*).

Ці знали вы майго кульгаваго дзядзьку Рамана?

Не, вы яго ня зналі... С пісьменных, яго ніхто ня знаў; але простые, цёмные людзі усе добра яго зналі.

Ён жыў у канцы села Збочнаго у маленькай, запаўшай у зямлю па самые вокны хатцы. Жыў не адзін, а з сваімі двума стрыечнымі братамі. з іх жонкамі і дзяцьмі. Аб тым, каб жаніцца самому і абзавясьціся сваім гняздом, Раман ніколі і ня думаў. Дый якая-б дурная кабета за яго пайшла, калі ён зусім ня меў ног і не хадзіў па зямлі, як другіе людзі, а поўзаў, за што і празвалі яго паўзуном. Ногі у Рамана адняліся ешчэ у дзецтве ад неякай ліхой хваробы.

Адняўшы ногі, Бог наградзіў яго тым, што даў яму надта цікавы розум і здатные да ўсяго рукі. На што, бывала, кульгавы не гляне сваім вокам,—усё сам зробіць, і не магло знайсьціся у гаспадарцы такога дзела, катораго-б ён не абмысьліў, як трэба, і не справіў.

Жанкам Раман гастрыў нажэ, шыў чаравікі, вязаў бёрды; мужчынам галіў бароды, кляпаў косы, правіў хамуты, падпраўляў старые боты і рабіў шмат чаго іншаго.

Апрыч здольнасьці да ўсякаго майстэрства, Раман ешчэ і пісьменны быў: ён добра умеў чытаць друк па-польску і па-руску, разбіраў скарапісь і мог нават распісацца за неграматнаго.

Усякі будзенны дзень Раман уставаў да сьвету і с пацерамі прынімаўся за работу: рэзаў на куські калінавые кіі, шчэпаў іх на дранічкі, стругаў трасьцё і вязаў бёрды, або з старых халяў шыў каму-небудзь башмакі, ці падшываў лапці. Вечэрамі, дакончыўшы сваю работу, Раман памагаў жон-

кам братнім у іх рабоці: чысьціў бульбу, крышыў капусту, малоў семянё, або забаўляў плакаўшых дзяцей, каторых надта любіў і шкадаваў.

Не даваў сабе Раман спачынку і ў сьвята. Устаўшы с пасьцелі раненька, ён па заведзенаму звычаю перш галіўся, потым умываўся і пачынаў маліцца. Маліўся доўга, набожна і з жалем вымаўляючы кожнае слово; а, дакончыўшы маліцца, моцна біў сябе ў грудзі кулаком, кажучы: „Божэ Вялікі! адпусьці мне цяжкіе грахі, як вольные, так і ня вольные... Ці словам, ці дзелам, ці памышленьнем саграшыў процiў Цябе, Божэ з высокасьці,—злітуйся нада мною грэшным і атпусьці мае цяжкіе віны“...

Слухаючы з боку гэты набожны лямэнт, здавалося, што Раман на сваей душы мае нейкі цяжкі грэх, што ён, можэ, забіў каго, або дапусьціў сябе да якой-нібудзь вялікай распусты. Але ўсім ведама было, што Раман ніўчым не

прашкапіўся і ня тое, што чэлавека—мухі і тае ніколі ня скрыўдзіў, з сваей убогай хаты нікуды не выпаўзаў і, апрыч сухога хлеба з бульбай, ніякіх трункоў і ў вочы ня бачыў.

Дарма, што Раман нікому не зрабіў ніякай крыўды, але ён лічыў сябе вялікім грэшнікам перад Богам, маліўся Яму, як самы цяжкі праступнік, і стараўся як можна больш рабіць людзям дабра, каб праз тое дагадзіць Богу.

У кожнае сьвята, па абедзе нізенька і цёмная хатка Рамана напаўнялася простым, бедным людам, што з усіх вёсак прыходзіў да кульгаваго дзядзькі на раду аб розных сваіх справах.

От, прыйшоў, апіраючыся на тоўсты, сукаваты кій, дзед Якуб і, усеўшыся на лаве, жаліцца Раману, што над ім надта здзекуюцца стараста і старшына, ды просіць напісаць на іх жалабу міравому пасрэдніку, каб ён разабраў гэту крыўду.

— Добра,—кажэ кульгавы дзядзька, — напішэм... Крыўду трэба звадзіць, каб і званьня яе не асталося паміж людзьмі.

Прызываюць суседзкаго хлопчыка, што ходзіць да школкі, і той пад Раманаву дыхтоўку пішэ пасрэдніку жалабу на старшыну і старасту.

Не пасьпеў дзед Якуб падзякаваць за просьбу і выйсьці за парог, як скрыпнулі дзьверы і ў хату увалілася таўстая кабета і, трошкі аддыхаўшыся, затараторыла:

— Раманка, мой ты саколік, палічы, колькі будзе таму рокоў, як умёр мой гаспадар . Справу гэту трэбуе ад мяне ненашта стараста, але я сама ніяк не магу злічыць...

Падумаўшы, Раман кажэ жонцы:

— Пасьля твайго гаспадара праз 5 гадоў і тры месяцы памёр Янка Сенькевіч, а пасьля Янкі праз тры рокі і шэсць месяцоў адышоў на той сьвет Пятрусь Шчэрбацюк, а с таго часу, як умёр Пятрусь, прайшоў ужо адзін

рок і тры месяцы,—значыцца, ад сьмерці твайго гаспадара прайшло 10 гадоў. Гэтак і скажы старасьце.

— І гэта праўда, дзядзюхна, будзе?

— Праўда, успакаівае яе Раман: як аман у пацерах!

Таўстая кабета, падзякаваўшы, ідзе сабе да дому.

За ею ў хату ўходзіць маладая салдатка с пісьмом у руках і просіць дзядзьку, каб барджджэй прачытаў яго.

Дзядзька ледзьве-ледзьве разбірае пісьмо па складах. Жонка, схіліўшыся над ім, слухае і паціху плачэ, бо яе мужык—салдат у пісьме жаліцца, што цяжка служыць у чужой старане, што здароўе надта благое...

Дачытаўшы пісьмо да канца, Раман, звярнуўшы яго, аддае салдатцы; тая хавае яго за пазуху,—пасьля, выцершы хустачкаю заплаканые вочы, кажэ:

— Я ешчэ да цябе, дзядзюхна, маю просьбу: будзь ласкаў, скажы, ці можна будзе у ваўторак на

тэй нядзелі, што прыйдзе, сушыць сена: якая на гэты дзень выпадае пагода?

Кульгавы дзядзька дастае с паліцы старую, запэцканую у сажу кніжку і, развярнуўшы яе, доўга разглядае там нейкіе стоўбікі, лічбы і надрукаваные кружочкі і паўкружочкі; посьле, абярнуўшыся да кабеты, кажэ:

— У панядзелак на тым тыдні, што будзе, месяць мае рушыць с поўня. Якая будзе пагода у панядзелак, гэткая будзе пагода і ў ваўторак. Калі у панядзелак ня будзе дажджу—у ваўторак сьмела ідзі растрэсаць капіцы сена.

Кабета дзякуе і ідзе да дому.

Вечарамі кожнае сьвята мужчыны з усяго села збіраюцца да Рамана галіцца, стрыгчыся, а то і так пабалагурыць а тым ды а сім.

Гэтак і праходзіло ўсё Раманаво жыцьцё: буднямі ён рабіў бёрды, шыў чаравікі, набіваў вёдры, кляпаў косы, а ў сьвята чытаў салдацкіе пісьмы, памагаў суседзям у іх гаспадарскіх рахунках,

абвешчаў наперад пагоду, галіў і стрыг мужчын, — адным словам кульгавы дзядзька дзеля бедных вясковых гаспадароў быў залаты чэлавек.

Але, працуючы на людзей і дзень і ноч, як у будні, так і у сьвята, Раман усё ж такі ня меў добраго заработку; і ў хаці яго ня тое, што якой акрасы, часта не было нават і чорнаго хлеба, і ўся яго семья нераз галадала. Дзе-ж тут што зарабіць, калі да яго йшлі адны бедакі, ці галышы, як іх называюць у Беларусі пад Слонімам. Зробіць, бывала, кульгавы дзядзька бярдо, або сшые боты, і яму за гэта дасць паўзлотку, многа— злоты, а то і проста кусок хлеба; а другі і гэтаго ня дасць, а, узяўшы пад паху работу, толькі скажэ:

— Ня гневайся, майстрэньку, па восені можэ, Бог дасць, будуць лішніе медзякі, то ужо тады і заплачу табе...

— Нічога, братка, памірымся... Калі не заплаціш ты, то Бог заплаціць,—атказываў кульгавы.

Аднак прыходзіла і атходзіла восень, за ею паўзла маразлівая зіма, а медзякоў лішніх ні ў каго не было, і Раману за работу ніхто не плаціў...

Часта да Рамана заежджалі жэбракі с Палесься і падбухторывалі яго, каб ён з імі ехаў жэбраваць.

— Як паедзеш з намі жэбраваць,—гаварылі яны яму,—то азалоцішся. На Палесьсі будзеш у кірмашны дзень збіраць ня менш, як рублёў дзесяць, або і дванаццаць, бо там надта людзі добрые і жаласьлівые.

— Не, браткі, атказваў ім Раман: гэтаго ня будзе, каб я пайшоў жэбраваць... Хоць адняў у мяне Бог ногі, але даў моцные і да ўсяго здольные рукі. Пакуль буду жыць, датуль буду працаваць і Бога хваліць!

І жэбракі, не дабіўшыся нічога, з вялікім сорамам ад'еждждалі да дому.

От, ужо і састарэўся Раман. Зніклі сілы; работа з рук валіцца;

стаў часта хварэць; а посьле і зусім занядужаў. Ляжыць кульгавы дзядзька у лахмоцьці на запеку і цяжка стогне. Твар паzелянеў, вочы патухлі і ўваліліся; сам ледзьве-ледзьве дышэ. Сабралася каля хворага ўся семья; плачуць... Раман раскрыў вочы, глянуў на радню і кажэ:

— Выбачайце, мае саколічкі, можэ каго абідзіў... Я ўжо паміраю. Бывайце здаровы... Там, пад запекам, у кутку закапаны чатыры злоты; я іх прыпратаў на пахаваньне. Злоты аддасьцё Адаму, каб зрабіў труну; два злоты—бацюшцы за атпеваньне, а злоты падзяліце паміж жэбракамі, каб памянулі маю грэшную душу...

Сказаўшы гэта, Раман цяжка ўздыхнуў і навекі закрыў свае вочы.

**К. Лейко.**

# Дзьве дарогі.

Вось табе дзьве дарогі, дзьве неабмыльные сьцежкі ў жыцьці. Адна: адрачыся ад сябе, кінь любіць сябе, растапчы нагой тваё самалюбнае „я“, дыхай дзеля шчасьця другіх, ахвяруй усё, што маеш, дзеля шчасьця твайго бліжняго брата-чэлавека, дзеля твайго роднаго краю, дзеля карысьці ўсіх людзей; любі праўду і дабро не дзеля падзякі, пахвалы табе за яе ад людзей, а дзеля самой праўды і дабра, і цяжкім крыжэм выпакутуй тваю еднасць з Богам, тваё бязсьмерцьце, каторае павінно быць у зніштажэньні твайго „я“, ў пачуцьці бязмернаго шчасьця. Што? Ты не адважываешся? Палохае цябе гэта дарога? Здаецца табе, што гэта не на твае сілы?.., Ну, дык вось табе другая дарога, —яна шырэйшая, прастарнейшая, лягчэйшая і спакайнейшая: любі

сябе больш усяго на сьвецi, плач, рабi дабро толькi дзеля сваей карысьцi i выгоды, ня бойся зла, калi яно дасць табе карысць. Помнi гэту навуку: з ёй табе ўсюды цёпла будзе! Калi ты не нарадзiўся сiльным, гнi свой хрыбет, поўзай зьмяёй мiж тыгроў, кiдайся тыграм мiж авечэк, губi, цiсьнi, пiй кроў i сьлёзы; лоб апляцi лаўровымi венкамi; хай гнуцца плечы пад цiжарам незаслужэнай пахвальбы i тытулоў! Вясёлае i шчаснае будзе тваё жыцьцё; не спазнаеш, што такое холад i голад, што такое зьдзек i глум; усе будуць дрыжаць перад табой, усюды пакора i услужнасць, усюды пахлебствы, пахвалкi,—i паэт напiшэ табе оду, ў якой прыраўнуе цябе да паўбога, i пiсака праенчыць аб табе ва ўсе вушы, што ты—абарона слабых i сiрот, стоўп i падпора сваей старонкi...

Што табе да таго, што ў душы тваей кожную мiнуту будзе падыймацца страшэннае крывавае безладзьдзе, што ты будзеш безперэ-

станку у спорцы з самім сабой, што ў душы тваей будзе залішне горача, а ў сэрцы залішне холадна, што стогны зацісnутых табой трывожаць цябе і на вясёлым балю, і на мяккім ложку сна, што цені загубленых табой абступяць тваю сьмяротную пасьцель і паднімуць кругом яе пякельны танец і з дзікім, чартоўскім сьмехам будуць цешыцца с тваіх апошніх, прадсьмертных мук, а прад тваімі вачамі раскрыецца страшэнны абраз духоўнай пагібелі і за гробам вечных пакут!... О, дарагі мой, твая праўда: жыцьцё—сон: і ня ўгледзіш, як пройдзе. Але затое вясёла пажывеш, салодка паясі, смачна папьеш, мякка пасьпіш, пабудзеш верхаводам над сваімі братамі, а гэта чаго-колечы ды варта! Калі-ж пры тваіх радзінах прырода палажыла на тваю галаву печатку генія, дала табе мову прарока і чароўны голас паэта, калі кіруючая сьветам доля вызначыла цябе быць кіраўніком чэлавечэства, апосталам праўды і знаньня,

вось ізноў перад табой дзьве необмыльные дарогі. Уцякай у прыроду, любі і старайся спазнаць яе, рабі без надзеі на заплату, адчыняй душы родных братоў тваіх дзеля пазнаньня добрага і праўды, выяўляй зло і цемнату, цярпі напасьці, еш хлеб, змочэны сьлезамі, і не адрывай задуманаго вока з дзіўнаго, роднаго табе неба!... Трудна? Цяжка? Ну, дык таргуй тваім божым дарам, палажы цану на кожнае прарочае слова, каторае пасылае табе Бог у сьветлые мінуты прасьвяды; купцы знойдуцца, заплацяць добра, а ты толькі умей кадзідлам падкурываць, умей сагнуць да зямлі тваю слаўную галаву, забудзься аб славе, аб вечнасьці, аб патомнасьці, будзь здаволен тым, што услужная рука крамніка-пісакі абвесьціць аб табе, што ты вялікі паэт, геній, Байрон, Гетэ!...

*З Белінскаго пэрэклаў*

**М. Арол.**

# Хвароба над хваробамі.

Жыў сабе адзін чалавек. Быў ён ня тое, што каб багаты, а так сабе—добры гаспадар; гараваў, не ленаваўся, дык і меў кусок хлеба і грош на патрэбу. Толькі даў Бог яму нешчасьце: быў у яго адзін сынок, гэтак хлапчук гадоў дванадцаці. Гожы быў, ціхі хлапчук. Радаваўся Сёмка, (так называўся той гаспадар), што скора яму будзе падмога. Дык не-ж,—захварэў Янка. Што ні рабілі Сёмка з жонкаю, якіх толькі варажбітоў не звалі, якіх зельлёў не давалі,—нічога не памагло. Праўду кажуць: калі Бог ня дасць, то людзі не памогуць. Пакачаўся Янка з нядзельку дый памёр...

Горка заплакаў Сёмка і с таго часу пачаў піць. А Матруна, Сёмкава жонка, з жалю аж білася аб сьцяну галавой. Каб добрые людзі не прытрымалі, то-б яна і голаў размажджыла.

Яна хоць была ешчэ і маладая, але ня даў Бог ей больш дзяцей. Ня можэ Матруна нават плакаць, сьлёз німа, вочы высахлі. Пойдзе яна на могліцы і сядзіць там цэлы дзянёк ды галосіць. А Сёмка усё часьцей ды часьцей паседжывае у карчме. Ведама, без гаспадара й гаспадыні стала гаспадарка нішчыцца.

Паглядзіць Сёмка на гаспадарку, возьме яго жаль і ешчэ горэй запье.

От, раз ужо мо ў самую поўнач вышоў Сёмка с карчмы. Быў ён падвыпіўшы; падыйшоў каля дарогі да крыжа, спатыкнуўся ды й сунуўся ў канаву. У канаве вады не было, толькі трохі гразі. Ночка цёплая.—Аддыхну,—думае Сёмка і палажыў голаў на траву. А трава мяккая, як падушка. Ляжыць Сёмка дагары і глядзіць, колькі зорак на небі. Вось адна зорка пакацілася й патухла.—Мо гэта душачка майго Янкі,—думае Сёмка.

Толькі ён гэта падумаў, бачыць, ажно Янка, от так, як жывы, стаіць каля крыжа.

Спужаўся Сёмка, а Янка падыйшоў да яго бліжэй дый кажэ: —„ня бойся, бацька, гэта мяне Бог паслаў к табе, каб я перэсьцярог цябе. Хадзем, я табе усё пакажу“.

Падняўся Сёмка і падыйшоў к сыну. Узяў Янка бацьку за руку і паляцелі яны, як віхар. Лятуць яны, аж вецер каля вушэй сьвішчэ.

Доўга яны ляцелі, ці каротка, толькі апынуліся на гарэ.

Тупнуў Янка нагой аб камень, і адчыніўся склеп. Паляцелі яны ў склеп, як у калодзезь; даляцелі да дна.

Стукнуў Янка кулаком у сьцену і атчыніліся дзьверы. Увайшлі яны туды.

Бачыць Сёмка, ажно гэта—вялікая хата, пасярод стаіць як-бы стол, зроблены с чэлавечых касьцей, а пры сьценах—лавы. Хацеў Сёмка прасіць сына, каб ён вывёў

яго з гэтаго калодзезя, але бачыць, што Янка нет ведама куды дзеўся. Спужаўся Сёмка і схаваўся пад лаўку.

Сядзіць ён у самым куце і ня дышэ ад страху: душа ў пяткі схавалася, чуць с цела ня выскачыць. Сядзіць ён. Але вось разступілася земля, і выйшлі дзьве якіесь нечысьці ў пастаці чэлавека, толькі вельмі касматые і з рагамі, паскладвалі яны у кучу чэлавечые чэрапы, паветрылі насамі, бы сабакі, ці німа чаго непатрэбнаго, і ляглі каля кучы.

Па немалым часе трэснула сьцена і нарабіла такога гуку, што ў Сёмкі дух спёрла і ў вачу пацямнела.

Ачухаўся ён трохі, бачыць, ажно з дзіркі вылазіць такая страшная нечысць, што ня можна й сказаць. А чэрці уселякаго калібру вядуць гэтую нечысць пад рукі, шапкуюць, услугоўваюць, от—нераўнуючы, бы архірэя. Дагадаўся Сёмка, што гэта мабыць самы старшы чорт—Люцыпар. Хацеў

перахрысьціцца, дык пад лавай так цесна, што нельга рукі пашэвяліць.

Вось Люцыпар узабраўся на кучу с чэлавечых касьцей ды ўсеўся, бы пан на крэсьлі. Сядзіць, а чэрці стаяць па баках ды зубы скаляць. Трэснула йшчэ адна сьцена, і пачалі вылазіць адтуль—наперад сьмерць с касою (от акурат, як малююць), а за ей уселякіе хваробы. Налезла гэтае пошкудзі поўна хата.

— Ну,—кажэ Люцыпар, — ты, сьмерць, садзіся каля мяне, а вы, мае пахолкі, кажэце, што вы зрабілі, ці многа людзей перэбавілі с таго сьвету?—

Разселася сьмерць каля Люцыпара на кучы касьцей так, што ўсе рэбры яе забраждджалі.

—Ну,—кажэ Люцыпар,—падхадзіце ды кажэце, што вы зрабілі. І пацягнуліся хваробы бліжэй да кучы.

Перш падыйшла хондзя, ці, як кажуць, трасца,—зялёная, худая, от, бы тая жыдоўка, што анучы

збірае. Дрыжыць, бы асіна, і кажэ тоненькім, пісклявым галаском: „кепская настала пара цяпер; зельлёў многа: трасу—трасу, гняту—гняту, нічога не параджу. Цяпер людзі кажуць, што пурымы не сьвята, а трасца не хвароба“.—

— Глядзі ў мяне!—закрычаў Люцыпар,—я дам табе такога дыхту, што с цябе й духі выпрэ. Пашла вон!—

Знікла трасца. Падходзіць хвароба сухоты.—„Я,—кажэ, —многа атпраўляю людзей на гэты сьвет, многа падгатавала. Дзякаваць п'янству,—пры гэтых славах яна пакланілася якойсьці бочцы, а с тае толькі тырчыць аблезлая галава с сінім носам,—дзякаваць, яно мне шмат памагае“.

— Добра, добра,—кажэ Люцыпар,—зраблю цябе старастаю.

Далей пашлі: воспа, рэзачка, халера, гарачка, водра і многа другіх хвароб. Усе яны кажуць, што вельмі памагало п'янство.

Слухаў, слухаў Люцыпар, дый пытае:—„Якое—такое там п'янство,

што ўсе яму дзякуюць? Што-ж яно само зрабіло?“ —

Падсунулася бочка, ці бо тое самае п'янство, дый кажэ: „го-го-го! што я зрабіло? Я тое зрабіло, што цяпер, каб не я, то-б усе хваробы ніводнага чэлавека не ўмарылі; сьмерці прышлося-б ці зубы палажыць на паліцу, ці суздром здохнуць“.

— Праўда, — кажэ сьмерць,— п'янство верна мне служыць: яно робіць больш, чым усе хваробы разам. А сколькі яно ешчэ прыгатаўляе. З ім што па гатоваму хадзіць! Пасьля п'янства возьме і трасца, і пухліна, і рэзачка, і ўселякая хвароба. Не, а от ты папрабуй к цьвярозаму прыступіцца! калі ты сунейся к яму у жывот, а ён цябе давай варыць; круцішся, круцішся, дый вон скарэй бяжыш бо ён і камень зварыць.

— Хвалю, п'янство! - закрычаў Люцыпар,—раблю цябе самай старшай хваробай над хваробамі. Цяпер усе цябе будуць слухаць. Ха-

дзі, каханае п'янство, ка мне, садзіся каля мяне.—

Запішчалі, захрыпалі усе хваробы, сталі віншаваць п'янству, ды такі падняллі гоман, што дол разступіўся, і ўсе яны паляцелі ў тую пропасць.

Дрыжыць Сёмка пад лаваю, ня сьмее адтуль выпаўзці, але зірнуў, ажно Янка стаіць каля яго. Узяў Янка бацьку за руку і ўзноў яны паляцелі. Доўга ляцелі яны каля самых зорак, чуць не зачапіліся за месяц, пакуль не вярнуліся на тое-ж мейсцо пад крыж, дзе Сёмка ляжаў у канаўцы.

— Ну, бацька, бачыў?—пытаецца Янка.

— Бачыў,—кажэ Сёмка.

— А калі бачыў, то йдзі з Богам да господы і раскажы другім.—

Сказаў Янка і знік.

Глядзіць Сёмка, ажно ён усю ноч у канаве у гразі пралежаў,

Сьцюдзёна, зуб на зуб не пападзе. Дрыжыць увесь, як-бы яго трасца трасе. Падняўся гэта ён, перахрысьціўся ды да гасподы сунуў, бы хорт. Але мабыць с тае пары Сёмка больш ня пойдзе ў карчму і ня будзе піць. Мо́ й гэтак.

А вы як думаеце?

**З А. Сержпутоўскаго.**

(*Сказки и разсказы Бѣлоруссовъ Полѣшуковъ*).

# Кручэная авечка.

Зімой у нашу вёску прышла ваенная каманда на пастой. Ведама, даўней ня тое было, што цяпер. Для нас, малых, салдат здаваўся горш ваўка, а ткі прыглядзецца к яму бліжэй, то і праўда была: салдаты ўсю вёску перавернуць па своему.

Спужаўся і бацька наш; думае сабе, што калі нячыстая сіла падаткне у хату чужынца, бяды набярэшся,—і, доўга не чэкаўшы, сабраў капу яечэк ды папёр да старшаго, каб у час перэсьцерагчы, што і хата цесная, семья вялікая, а хлеба німашака, ды дзяўчынка дародная ёсць. „Добра, кажэ старшы, будзь пэўны, што ніхто ня будзе". Праўда, дні са два нікога не было, а на трэйці глядзіш—нячысты госьця нанёс.

Бацька ізноў да старшаго, той ані блізка. Пабедавалі старые, ды

такой бяды: чэлавек—ня гной, з лапаты ня скінеш.

Дзяўчынку зараз атправілі да цёткі у суседнюю вёску, нас малых паўпіхалі на печ, а салдату аддалі ложка. Глядзім мы с печы на салдата і злезьці баімся, дужа страшыліся стрэльбы. што стаяла пад абразамі, і яго вусоў, асабліва тады, як ён іх сажай з воскам нацухмоліць; а посьле нічагутка: як звыкліся, то і рады былі, што салдат тут, бо не было таго дня, каб ня елі гуся, курыцы, або і бараніны. А татка наш, бачучы, што салдат шкоды ня робіць, карміў яго, як на сала.

Гэтак прайшоў мясаед і настаў пост. Пачалі есьці рэдзьку, капусту і бульбу „з мундзірамі“. Загаманіў салдат—рады німашака; ад раніцы да вечэра, як гром грыміць, і што дзень, то ўсё горш і горш, хоць с хаты уцякай. А тут, як на бяду, авечка закульгала. Ну, ведама, хворай ня гоняць у поле, —прынясьлі ў хату. Салдат у гвалт.

— „Што за хамства!—зароў ён, —пайду да начальніка; я з авечкамі хаўрусу не вяду! Ён вас жывых не пакіне!...“ І ўжо узяўся за шапку. Бацька здагадаўся, нешта ткнуў яму ў руку, і той сціх. Авечка, як на дзіва, паздаравела, пахарашэла, і назаўтрае меліся ў поле гнаць, аж бач—не: беда прылучылася. Ні с таго, ні з гэтаго скруцілася авечка, стала саўсім кручэная; круціцца, круціцца на адным мейсцы, уткнецца вухам у падлогу, бытцым нечэга прыслухоўваецца.

Прышлі суседзі, глянулі—трудна рада, кажуць, трэба рэзаць, а не—сабакам будзе пажыва. І салдат тое самае правіць, каб рэзаць; ён нават і мяса з'еў-бы „А пост?“—перапыніў яго бацька.—„Не тваё дзела лезьці ў маю душу!“—зароў салдат. Ну, калі так, падумаў бацька: жры, хай разапрэ цябе! І, як бачыш, авечку па горлу шась. Салдат еў, пакуль лезла, а праз тыдзень авечкі і паху не было.

Памятаю, усталі мы неяк досьвіткам, засьвяцілі агонь, ажно чу-

ем: нехта забразгаў у вакно і пачаў клікаць нашаго нахлебніка: „Эй, уставай! на вучэньне пара“.— „Зара“, атказаў той і, як непрытомны, усхапіўся з ложка, выбег на сярэдзіну хаты і пачаў круціцца, як верэцяно, на адным мейсцы. „Хутчэй!“ крычаў той старшы. Салдат ані з мейсца! Старшы увайшоў у хату, глянуў на салдата, ды і кажэ: „Вось яно што!“— і, падыйшоўшы, перэжэгнаў яго. Нічога. Даў яму у рукі стрэльбу; той круціцца з стрэльбай. Вось і накінуўся ён на бацьку. „Ты чаму, такі ды сякі, казённаго чэлавека не шанаваў, чаму ён у цябе круціцца, чым накарміў?“—Бацька і так і гэтак—нічога. Дашло да таго, што старшы згроб ужо бацьку і цягне да ахвіцэра. Мы ў плач. Шчасьцем надышла маці, а сказаць праўду – разумная кабеціна; німа што, растлумачыла яна старшаму, што салдат еў мяса кручэнай авечкі, і пэўне зашкодзіла; ну, а каб усё добра было,

ткнула старшаму тры рубельчыкі, каб хвораго ратаваць.

Старшы, відаць, ня просты быў чэлавек, зара пачаў шэптаць, аткручываць яго у другі бок, і глядзіш: хваробу, як рукой зняў.

Дзякуй Богу, аджылі ўсе. Зарэзалі ешчэ дзьве авечкі, як казаў старшы, — не шкада, абы добра было.

Так можэ на тым і скончылося-б, але трэба: салдат са сваім старшым папіліся ды пабіліся, і ўся іх справа з авечкамі дайшлася да ахвіцэра. Вось той прыходзіць да бацькі і кажэ: „Дурэнь ты стары, ці ведаеш, за што цябе лаюць?“—„Не, паночку“.—„А вось за тое, што ты, стары грыб, дапусьціўся, каб цябе блазны ашуківалі. Гэта-ж твой нахлебнік, жадаючы бараніны, наклаў авечцы ў вуха шоўку, і яна з гэтаго і круцілася, як непрытомная“. Затым паклікаў да сябе таго салдата і ефрэйтара ды загадаў ім круцідца абодвым, а сам ад сьмеху аж за жывот браўся. „Не люблю ха-

барнікоў,—крычаў ахвіцэр;—што мяса, то ўжо ня вернеш, а тры рубельчыкі зара павінны аддаць“. —„Добра,—атказаў ефрэйтар,—аддам, як будуць, а цяпер німашака: сьвятам прапілі“. Так тых грошы бацька і ня бачыў, але рад быў, што ахвіцэр сумленны чэлавек быў, праўду сказаў; годзі і гэтаго: ўсё-ж на душы было спакайней.

*Па украінску напісаў* **Грэбенко.**

*Перэклаў* **Галубок.**

# Сусьветны жанiх.

— „Але, во цябе багавіца, якая ліхата раз'юршылася на дварэ“,— згарнуўшыся, прагукала старая, але ешчэ чапорная кабета, Язэпіха, да сваей ядынай нявесткі Зосі і, ўзяўшы нейкае старое лайно, палезла на печ.

Зося старанна укутывала ў калысцы свайго ешчэ першаго дзяцёнка і, ціхусенька калышучы, цягнула, як кошка курну, безканечную калысную песьню. У хаці было блізка што саўсім цёмна, бо маленькая лямпачка - смаркачка стаяла на прымурку печы і не сьвяціла на хату. Было ціха—нават прусакі перэсталі шамраць, бытцым спужаўшыся узняўшэйся на дварэ непагоды; толькі авечкі пад полам часамі нарушалі спакой. Язэпіха і Зося, прыбраўшыся з работай і зварыўшы вячэру, цяпер чэкалі толькі мужчын з лесу,

каторые паехалі ешчэ досьвіта на заработкі.

На дварэ і запраўды была гэткая ліхата, што падхадзіла якраз да прыказкі: „Мусі нячыстая сіла вясельле спраўляе“; круціла, вярцела на ўселякіе лады: і з нізу ў верх, і з верху ў ніз, і на ўсе чатыры бакі; вецер шуміць, шуміць роўна, а посьле разам як загудзіць каля вуглоў, засклыгікаець акяніцамі, ды завыець у коміне, дык, здаецца, і ведаеш, што гэта, але паняволі неякая страшэнная жуда цісьне сэрцэ. А то набяжыць такая думка: што, глядзі, вось-вось хопіць ды кульганець хату праз галаву, ці рагачом паставіць, дык і апынешся, як лысы, без пакрышкі на гэткім бую, пад аткрытым небам. Мароз, атаман зімовых буёў, падтрымліваны сваім крэпкім памочнікам ветрам, выяўляў безмiласерную злосьць ў поўнай моцы. Ён ня толькі замураваў ваконные шклянкі лёдам таўсьцей за палец, зрабіўшы іх саўсім неправіднымі, і забяліў, як

сьметанай, дзьверы, але забраўся і пад полі, у кут, аткуль выставіў з злоснай усьмешкай сваю сівую бараду; а на панадворку, як хопіць, ды трэсьне ў вуглэ, аж сьцены задрыжацъ, і авечкі пад паломъ мітусяцца, а ў вачох здаецца, што ўжо і дзірка сьвеціцца у кутку ды холад сьмяротны пры гэтым прабяжыць па заскур'ю. Маркотна сядзецъ у хаці у гэткую пару, а злашча дзьвюм кабетам...

Старая Язэпіха прымясьціўшыся з берагу печы, каля коміна, ізноў загукала да нявесткі:

—„Мне гэты вечэр узвёў на памяць страшны вечэр, каторы, помню я, быў гадоў дзесяць таму назад; і калі хочэш, я табе раскажу, якое было на той час здарэньне".

— „Раскажы, мамка!"—атказала нявестка, ківаючыся разам с калыскай. „Карацей час пройдзе, пакуль мужчын прыжджомся"

— „На гэтай ніві", — пачала свой расказ Язэпіха,—„што мы цяпер называем „Гануліна ніва", жыла тады с сваей дачкой і зяцем

удава, салдатка Гануля. Мужык яе, Янка, Мікалаеўскі салдат, неяк скора памёр, як ажаніўся з ей, кінуўшы ей адну дачушку, 5 гадовую Мар'янку; а жылі яны паміж сябе надта ўжо згодна і, хоць не багата, але заўсягды хлебам былі сыты, хата была цёпла, адзежку мелі ня горш людзей, ды і ў запасі дзе што было; бо хоць жылі на малой ніўцы, але згодна і старанна працавалі і, скуль можна было, гарнулі ў вадну кучу да сябе, а да таго гутаркі пахаджывалі па вёсцы, што ён меў і гатовые грошы: з ваеннай службы. І вось, як памёр Янка, дык Гануля надта ўжо ўбівалася па ім, галасіла і пры гэтым паставіла сабе за указ замуж больш не выхадзіць, бо нябошчыка вельмі любіла і жалела, дык і думала, што век-вечным яго не забудзе; а другое—баялася і таго, што, як выйдзе замуж за другога, могуць пайсьці ешчэ дзеці, а багацьце не вялікае, што-ж тады рабіць? А як павырастаюць, гэту самую крошку

парвуць, і ніводзін сыт ня будзе; дык нічым развадзіць старцоў каторых і без таго бязшчотная лічба мучаецца на вольным сьвеці. Ніхай лепш усё гэта дастанецца аднэй Мар'янцы.

„Праўда, што яна і датрымала сваю ахвяру: замуж не пайшла, хоць і многа хто вастрыў лапкі на яе.

„Мар'янка яе расла, як на дражджах, для яе пацехі і ахвоты да жыцьця: гэткая мілая, спрытная да ўсяго. А як падрасла, стала вельмі карыснай памоцніцай Ганулі ва ўсім, так, што яны мала гаравалі, што жылі толькі у дзьвёх. І калі Мар'янка дажыла ўжо поўных формоў дзяўчыны, стала прыгожа, як макава кветка: чыста, поўна, на шчоках красачка аж прышчыць, каса цёмная ў аберуч, уся хвігура гэткая акуратна умяркаваная, натура заўсягды адкрытая, вясёлая, ды і на розум была не тупая,—адным словам, усіх гартных цнот дзяўчынка. Вось яна і пачала закручываць бедным хлоп-

цам галоўкі, ды аж і за сэрцы пашчыплівацЬ. Так, што ў ваўсей ваколіцы, здаецца, не было такога хлопца, каторы бы ня быў ей ранены. А іншые і вельмі упадвалі, нават мучыліся, дабіваючыся ад яе згоды; і то хлопцы заможных, прыкладных гаспадароў і слаўнага роду. Але яе сэрцэ было вольнае, як паднябесная птушка. У ўсякаго яна знаходзіла якую-колечы ганьбу: то ціхі, як самусь, то мешкаваты, не рахманы, то незграбны; а на багацьце і на род саўсім не ўважала. „Калі будзе толькі чэлавек па душы, восЬ тут будзе ўсё шчасьце і багацьце!“ — быў яе такі сказ усім. Матка ей у гэтых справах не перэшкаджала. „У гэтых справах,—казала яна— „мая дачка мае сваю поўную волю“.

„Ажно раз бігуноўскі пан прывёз сабе парабка, недзе, вун, аж с пад Загрудак. Той неяк раз прыйшоў у нашу вёску на йгрышчэ з другімі хлопцамі і пазнаёміўся з Мар’янкай; праўда хлопец—

вуда: ведама, сусьветная дворная штука,—на язык, дык пэўна нашаго-б „Мурзу“ абрэхаў бы, ды і на ўсякіе прышчалыкі быў ліх. Скакаць, пеяць, ці іграць, дык толькі глядзі губу разінуўшы, ды слухай, вушы растапырыўшы, а ён табе ешчэ падскочыць, галавой траханець, скрывіцца, збочыцца і вокам міргнець,—адным словам у гэтым зух быў; а і с твары нішто сабе быў: чысьценькі. чырвоненькі, відаць, што працай ня збіўшыся.

„Вось тут перад ім і абвялі гардые, крумяные лісьцікі нашай кветкі—Мар'янкі. Ужо глядзім—яна сама так і лучаець, каб з ім зыйсьціся, пасядзець, пагукаць, ды падыхаць адным паветрэм. А дальш-больш: яна і саўсім растаяла ад яго, стала мяккой, хоць гаршчкі ляпі. Хлопец бачыць, што яму Бог негаданае, нечэканае шчасьце шлець, і толькі самому не зевацЬ дык можна ладны інтэрэс абладзіць; нават з гонарам перад ўсей аколіцай: першую дзяў-

чыну ўзяць,—ды проці яго і гаспадаркі годзі, ўсё гатовае, як нагу у бот уставіць. Вось ён і давай паглыбей запускацца і так урэпіўся, што ахвяра перад ім змаглася, а ён тады давай сватацца; а Мар'янка і рада, толькі гэтаго чэкала, аб гэтым толькі і думала. Значыць, інтэрэс скончэн. Праўда, мы ўсе гаманілі, як на Мар'янку, так і на Ганулю: „на што вы бярэцё гэткаго сусьветнаго, невядомаго, бязроднаго верхалаза? хто яго ведае, што гэта ешчэ за птушка, ці умее ён пеяць на сельскай гаспадарцы? Гэта ешчэ нічога, што ён па дварох ходзіць, ды на прышчалыкі здатны, а нет ведама, ці будзеце з ім пячы бліны, злашча гэтак ешчэ каротка знаёмы з ім,—трэба хоць пачэкаць, паслухаць, паглядзець ..." Але Мар'янка ані блізка: і слухаць нікога ня хочэ. „Што за радасць",—кажэ,—„жыць з якім-колечы мяшком, насыпаным мякінай, ці с пужалам, што, калі ідзе, дык верабьі разлетаюцца: гэта не жыць-

цё, а хадзячае згніваньне“.—Гануля, хоць і згодна была з нашымі думкамі, але яна так баялася, каб чым-нібудзь не пашкодзіць Мар'янцы у шчасьці, катораго яна сама не магла уразумець, у чым яно можэ ей быць,—і дзеля гэтаго яна толькі старалася не перэшкаджаць Мар'янцы у выбраных ей пуцявінках. Гэтак і пажаніліся наша Мар'янка с Хвёдарам (так звалі жаніха), лічучы сябе найшчасьлівейшымі людзьмі на ўсім сьвеці, каторым удалося атрымаць найдаражэйшые дары ад жыцьця. Але ня гэта прыгатавала ім іхняя доля...“

Язэпіха цяжка ўздыхнула і, змаўчаўшы, пачала папраўляцца: згарнула пад сябе больш рызьзя, што валялося па печы, бо мусі пачало надта падагрэваць з нізу.

„Ну, вот і ладна. Пажаніліся, значыць, і жывуць, ведама, як людзі жанатые, сталые, праўдзівым жыцьцём; а з імі разам і матка старая жыве, пэўна, што ўжо і сьмялей і слабадней дыхаючы. Гэ-

ґак думалі усе ў вёсцы, вельмі не прыгледаючыся да іх, ды не так лёгка прыглядзецца да ўсіх чужых заканурков, злашча, калі іх стараюцца як можна лепей закрыць ад людзкіх вачэй. Але-ж яно так: калі агонь дзе гарыць, дык ужо дыму аніяк ня ўдзержыш. Так яно і тут сталося.

„Саўсім ешчэ неяк неўзабаве пасьля Мар'янкаваго вясельля,— ну, можэ так прайшло тыднёў с пяток, добра ня помню,—прыходзіць да нас Ганyля, і я бачу, што яна нешта саўсім нос на гвінт спусьціла, і вочы яе мне паказаліся бытцым такімі, якімі яны былі пасьля сьмерці нябошчыка Янкі, а не такімі, якімі бываюць пасьля вясельля. Ладна, думаю сабе і пачала здалёку, ды наўкола дагаварывацца аб зяцю. Аж на маё нечэканае здзіўленьне, бачу: у маей Ганулі задрыжаў падбародавік, губа разшырылася, зморшчылася, і па бакох у верх дрыг, дрыг; вочы часьценька заміргалі, а сьлёзы гэтак бытцым вяровач-

кай з бліскучымі пацеркамі пацяклі з вачэй, бытцым-бы гэта я сваей мовай вырвала затулку ад ейнаго сэрца, і з яго нястрымана палілося на верх, як ідаць, вялікае горэ. Праўда; і я не стрымалася: гледзючы на Ганулю, сьлёзы мімаволі пасыпаліся з вачэй, і я, змоўкшы, бяз мысьлі застанавілася на Ганулі вачамі. А яна схапілася за рагі хусьцінкі, закрыла імі твар, ды калі дасьць галасіць, прычытываючы: „а мая ты сястрычка родненькая! Загубілі мы сябе, загубілі, не паслухаўшы рады добрых людцоў. А бедная мая мілая дачушка Марыська! Затраціла ты ня толькі сябе, маладую кветачку, але і мамку сваю родную у яе старэнькіе дні“... Гэтак прагаласіўшы шмат часу, Ганупя пачала па троху успакаівацца. Мусі адлілася разам са сьлезамі самая гарачая і вялікая крыўда, што накіпела за апошніе часы на сэрцы,— і на астатак яна ўжо толькі, глыбока усхліпываючы, пачала гукаць ад душы, бо пэўна перэканалася,

што усё роўна шыла ў мяшку ня ўтоіш. „Сястрыца мая любанькая, галубачка дарагая! Я-ж да цябе наўмысьля прышла пагукаць аб сустрэўшым нас горы. Выказацца, выплакацца перэд табой, каб хоць крошку змякчыць безміласэрную боль, зашчаміўшую сэрцэ“. Пры гэтых славах яна ізноў зморшчыла твар, пакаціліся сьлёзы; але яна, змахнуўшы іх, гукала далей: „ніколі у нас і думкі не было, што жыцьцё нашэ гэтак цяжка засмуціцца чым колечы, а асабліва замужэм маей мілай дачушкі, Мар'янкі. Мы гэтаго замужжа чэкалі, як каня дажджу, з маніўшымі нас думкамі аб шчасьлівейшых днях, аб яснай радасьці нашаго жыцьця.—Але што-ж! Мы чэкалі, захваченые аднымі баламутнымі мысьлямі, а не пыталіся самі сябе ні людзей добрых, як гэта мае быць? Трэба было прыгледацца да людзей, прыслухоўвацца. Мы на ўсё гэта ня ўмелі звярнуць увагі—проста па несьвядомасьці сваей, нават не хацелі уважаць; толькі

чэкалі шчасьця з аднэй думкай, што яно будзе, яно павінно быць для нас. І, наадварот, ешчэ нават калі добрые людзі, бачучы, што мы па склізкай кладцы ідзем, напаміналі нас, то мы гэтаму не давалі крыхотнаго значэньня, не застанаўляліся, а прапускалі скрозь вушэй. І што-ж! Дачэкалі жаданае гадзіны! Ох, Божэ мой!“ Гануля цяжка ўздыхнула і апусьціла вочы, а посьле, безуцешна ківаючы галавой, казала: „Але не такой, якой мы чэкалі, думалі і якая нам манілася ў думках прыгожымі фарбамі“. І яна ізноў хапілася за хустку і закрыла твар, пэўне, каб утрымаць сьлёзы, але хутка аткрыўшыся гукала далей.

С першых дзён пасьля вясельля я ўжо прыкмеціла, што мы папаліся на вуду, і мяне як варам зварыло. Балюча мне стала і жаль маей Мар'янкі, але што-ж зрабіць: позна ўжо, ня вернеш! Пачала я выкручывацца, як скурат на агні, каб як-нібудзь заладжываць, не

пусьціць успыхнуць на верх таго, што ў душы гарэла; а затым, думаю, можэ мала па малу удасцца як небудзь згладзіць сваю абмылку: абжывёмся, прывыкнем адзін к аднаму, і ладна будзе. Але не! Дабрадзей наш жаданы пачаў блізка ўжо с першых дзён на нас пагруківаць: то тое не ладна, то гэта не так; нават і сказаць не патрапіш, а ня толькі што зрабіць, асабліва па пьянаму (а пьяны ён бывае чуць ня кожны дзень, бо пярэчыць баішся,—набярэшся такой бяды, што посьле і не падбярэш); мы ўжо ўсё ладзім, ды падладжываем, а можэ-ж ён апамятаецца, схіліцца па згодзі на нашу лагоду. Але ён ані ў той бок. І сягоньня, калі я неяк не ўтрымалася (—покнуло цярпеньне!) і нешта рэзанула яму наўпроці, вось ён калі стукнуў, калі грукнуў, ды ка мне! Чуць здолела шмыгнуць за дзьверы, а то, чаго, добраго, змясіў бы з гразёй! І так каліськ-то чапіў, але мала. Выскачыўшы ў

сені, я саўсім алунела: чую тольві, што больлю зашчымело сэрцэ, горла здушыла сударага, у вачох стала цёмна, толькі сініе, чырвоные кружочкі мітусяцца, а ў галаву бытцым нехта молатам вухае. Шмат часу я не магла уцяміць, дзе я і што са мной сталося. І калі мне крыху атхлынула, то з вачэй паліліся проста руччом сьлёзы горкай крыўды. А, Божэнька, да чаго я дажыла: чаго ад роду ні бачыла і ў галоўку не прыходзіло ніколі... Уся агорнутая страшным жалем я са сълезамі прасіла Бога, каб Ён нас лепш усіх забраў з гэтаго сьвету, чым гэткае стыднае і крыўднае жыцьцё".

„Карацей кажучы, Хвёдар выдаўся такім, якім яго і трэба было чэкаць, уважаючы на яго ўдачу і ранейшае жыцьцё. Адразу забраў ён усё у свае рукі: як іх саміх, так і ўсе іхніе скарбы. Піў гарэлку і сам блізка што саўсім нічога не рабіў; хадзіў па ігрышчах, а жонкай ды цешчай панукі-

ваў, як валамі пад ярмом. Праба валі некаторые с суседзёў дый мой Язэп гаварыць яму, навучаць, стыдзіць, але ён як рэзане ў атказ, дык адразу губу як глінай замажэ; толькі вушы абвянуць, і гукаць ужо далей нечэга. Так іх усе і адракліся. „Ну, вас к ляду; як зыйшліся, так і разбірайцеся! а то ешчэ ў чужым пахмельлю трэба галаве балець“.

„Сама Марьянка каб калі слаўцом прагукалася каму-небудзь с крыўдай на Хвёдара! Напроці, пры усякай гутарцы, як мага́, старалася абгарадзіць яго, выбяліць усякі яго паступак. Хоць тое, што яна ўсё благое хавала ад людзей, відаць было на ей, як у люстры. Бо мала што не ад самаго вясельля з ей зрабілася вялікая перамена: прыціхла, бытцым у ваду апусьцілася. Саўсім і падабенства не стала с першай заўсягды рахманай, лёгкай і вясёлай Марьянкай. А дальш-больш: яна с пышнай, цьвітучай макаўкі зрабілася падобнай на сухую кветку.

„Гэтак прайшло больш году. У Марьянкі знайшоўся ўжо маленькі сынок. І з гэтаго часу, як казала сама Марьянка да сваей маткі, у яе бытцым адваліласяпьяўка ад сэрца, вочы прасьвятлелі, і яна бытцым праглянула ў даль на жыцьцё, убачыла мэту яго, каторай стаўся для яе маленькі сынок; ды толькі адным гэтым сынам адвадзіла душу, цешылася, а рэшта ўсё кругом сябе прапушчала міма вушэй і сэрца.

Раз неяк, здаецца, каля гэтай пары,—ды яно так і будзе, якраз перэд багатай куцьцёй, як цяпер помню!—захварэла Ганулья, ды так злегла, як пласт у пасьцель; а і маленькі нешта занездаровіўся: крэкчыць, капрысіцца. Праз колькі дзён Ганулі так стала дрэнна, што ўжо не на жарты,- так і глядзі, каб ня зьмерла. І Марьянка прасі, малі Хведара зьездзіць хоць да хвэльчэра, а можэ-ж якую раду дасць—награда. Праўда, Хведар не таргаваўся доўга, а запрог кабылку і паехаў; гэта было так

ешчэ у поўраньня, а пасьля поўдня, калі завярнула ліха, якраз вот, як сягоньня: сьвету Божаго не відаць! Мароз ешчэ паправіўся, хоць ты лысых лічы. Нашы мужчыны гэтак сама, як і сёлета, ездзілі ў заработкі; Якубу твайму тады было ешчэ гадоў чатырнаццаць. Яны толькі што прыехалі вечэрам і уселіся за вячэру,—а перамерзлі дык да костачэк, зуб на зуб не пападаець. Чуем: нехта хлом, хлом па дзядзінцу, бяжыць. „Ну,—голасна мы падумалі ўсе: ці ня Хведар там з сваімі бабамі расправіўся, бо больш у такую лігату да нас некаму было бегчы, а пра Гануліна здароўе мы, прызнацца добра і ня ведалі—чулі толькі, што занездаровілося. І пры гэтым нас ахапіла нейкая трывога,—мы перэглянуліся, апусьцілі на стол лыжкі і проста затаіўшы дух пачалі чэкаць бегшаго па дзядзінцу. Разам дзьверы шпарка атчыняюцца, і ў хату с дзікім крыкам убегае Марьянка у аднэй маленькай хусьцінцы на галаве. Мы

тут ужо бачым, што нешта не ладна, і з-застольля да яе: „што с табой? Ці ня Хведар?...“

„Ай—не! Родненькіе, памажыце мне! Міленькіе памажыце“, саўсім непрытомна крычэла Марьянка.

— „Дык што-ж с табой?—дапытываліся мы,—скажы“.

— „Мамачка мая міленькая, родненькая уміраець! Ай, родненькіе, пасьпяшыце! Яна саўсім ужо канаець!“—кідаючыся то к аднаму, то к другому, крычэла Марьянка. „А там-жэ нікога нет. Хведар паехаў па хвэльчэра і ешчэ не вярнуўся. Пойдзем, родненькіе, хутчэй, пойдзем!..“

„Мы тут з Язэпам схамянуліся, кінулі вячэру і, апрануўшыся на скорую руку, выбеглі с хаты. Марьянка уперад, а мы за ей па сьнягу. Падбегаем саўсім ужо да іхняго будынку і, хоць у мяцеліцу, але бачым: неякі конь стаіць запрэжэны каля хлявоў, ля плоту. Марьянка як бегла наперад, то, пэўна пазнаўшы сваю кабылку, хутка кінулася туды, чаго яна там?

Мы астанавіліся. Аж разам, як нажом, прабіў нашэ сэрцэ крык Марьянкі: „Ой, ратуйце родненькіе! Ой, хутчэй сюды!“

„Нас гэтак аглушыў яе нежданы крык, што мы нейкі момэнт стаялі астаўбянеўшы, бытцым важучы, ці бегчы на ратунак, ці мо́ уцекаць самім. Але разам сарваліся з мейсца, ды да Марьянкі, а там: на санях ляжыць ніц чэлавек, блізка што саўсім завеяны сьнегам. Мы за яго, аж ён, як кол. Замёрз, значыць. Перэвярнулі яго, аж гэта Хведар абванітаваўшыся ўвесь, сморадом гарэлачным так і разіць. Што тут рабіць? Трэба як можна хутчэй яго ў хату, мо́ ешчэ адратаваць удасцца. Марьянка саўсім страціла прытомнасць: крычыць нешта недарэчнае, кідаецца, мітусіцца у розные бакі: то да хаты, то да нас, то схопіцца за Хведара, то ізноў пусьціцца да хаты с крыкам: „А там жэ мая мамачка уміраець! А мой сынок дарагі!“ Але не дабяжыць—вернецца.

Мы і самі саўсім палунелі. Кі-

даемся, хапаемся то за тое, то за сёе, а нічога не выходзіць. Помнім, што трэба як можна сьпешацца гэтаго чэлавека ратаваць ад сьмерці, а і там у хаці нет ведам, што з Гануляй дзеецца. Памкнуліся на кабылцы вязьці Хведара к хаці—кабылка ня йдзе: ня можэ сарваць з мейсца саней, тады мы хапіліся, думалі нясьці на руках, але цяжка, мне не пад сілу, а Язэп адзін ня можэ. Хацелі адблутаць кабылку, але ў пасьпяху, ды ў пацёмку ніяк толку не дабіліся. У канцы Язэп страціў цярпеньне і нечым калі ўцяў кабылку; тая ірванула са ўсіх жыл, нешта храснула, покнула, і кабылка аж на нос сунулася, сарваўшыся раптам з мейсца. Толькі падвозім Хведара да хаты, аж адтуль выбегае Марьянка і глухім, здушэным голасам прагукала:

— „Памёрла!“

„У нас апусьціліся рукі, астаўбянелі. Але у гэтым стаўбняку ня доўга прыйшлося быць нам. Перэд нашымі вачыма хутка развяр-

нуўся ешчэ новы абразок: Марьянка, выбегшы с хаты і сказаўшы, што матка памерла, тут-жэ, раптам, крыкнула і, як касой падсечэная, бац у сьнег і распласталася. А во, беда гаручая! Галовачкі нашы бедные!—Саўсім мы памешаліся, няведаем, што рабіць, за што хапацца. Грудзі нам здушыў ні то жаль, ні то страх, а сьлёзы так і коцяцца з вачэй; хочэцца крычаць, але бытцым нехта трымае за горла, ды і не даець. Бачу толькі, што Язэп, кінуўшы Хведара, падскочыў да Марьянкі; вось і я туды. Узялі мы яе, паднялі, аж яна, як павесма, толькі сьлінкі цякуць з губы. Мы так-сяк цераз парог перэцягнулі ў хату. Уцягнуўшы Марьянку ў хату, рынулі яе на зямлю і чуем: дзіця недзе слабенька плачэ, ці ўжо нават не плачэ, але чуць чутна неяк жаласна стогнець. Некалі нам было зварочываць увагі на яго, ці разгледацца, бо трэба было, як можна сьпяшыць Хведара валачы ў хату. Выбегаем на дзядзінец, аж

во, табе: кабылкі німа, а разам з ей і Хведара. Мы туды, сюды, аж яна забілася ў дзяньнік. Ах, каб цябе воўк зарэзаў! Хацелі звярнуцца с кабылкай, але няможна; цесна было, дык, узяўшы на рукі, нясьлі Хведара праз увесь дзядзінец: яго такі лепш было нясьці, бо ён ужо быў каляны. Хата стаяла насьцеж, бо ў пасьпеху закруткі не закруцілі; вось дзьверы і расчыніліся. Хата была і без таго сьцюдзёная, хоць ваўкоў маразі, бо у Хведара ніколі людзкіх дроў не было, ды мусі і не агледжэная была на зіму; а цяпер стала саўсім, як пуня. Апрача гэтаго у ей было блізка што саўсім цёмна, бо газьнічка мала сьветла́ давала. І хоць нам некалі было там размышляць аб чым-небудзь, але страшэнная ціш халадзіла душу.

Язэп, ані мінуты не марудзячы загаманіў на мяне, каб я бегла на вёску звацъ людзей, а сам прыняўся, як ведаў ацучываць Марьянку. Збегліся людзі, і кожны, хто

прыбегаў, стаўбянеў з упуду і дзіва, пакуль не загаманяць да яго, што не на вясельле прыйшоў стаяць, а ратаваць людзей ад сьмерці. Ды ўсе нашы старэньня напрасны былі, бо адратаваць ад сьмерці ніводнаго нам не удалося. Хапіліся кабеты дзіцяці і знайшлі яго канаючаго каля ложка на зямлі у аднэй кашульцы, з акраваўленай галоўкай,—пэўна разбіў, зваліўшыся з ложка, аб вострые вуглы палена, каторае лежало тут, а на ложку, на падушцы лежалі разасланые полачкі с паяском, прыгатоўленые да спавіваньня дзіцяці. Дзіцятка на руках скора і душу аддало".

„Ох, мой ты Божухна!"—Язэпіха цяжка ўздыхнула і моўчкі апусціла галаву.

Маўчала і Зося. Апрвіўшыся ад цяжкаго ўражэньня, Язэпіха падняла галаву і загукала:

„Мая ты дачушка! я нават цяпер не магу успомніць, што мы тады пераж ылі. Асабліва мы з Язэпам. Мацнейшые характэрам

мужчыны, упэўніўшыся, што ўсе чацьвёра ўжо ня жывы, злажылі ўсіх у радок пакуль што на падлозі, і мы усе, як адзін, апусьціліся на калені, каб памаліцца за іх душы Богу. У кожнаго, хто там быў і бачыў усё гэта, ня столькі ад жалю, сколькі ад болі сэрца каціліся сьлёзы, і вочы так і блудзілі з аднаго нябошчыка на другога; кожны азіраўся, ці не стаіць тут за плечамі гэта страшэнная сьмерць, ці не яна гэта такім холадам дыхаець... А на дварэ гэтак сама гудзела і шумела мяцеліца, як галодны зранены зьвер, абласаваны сьвежай крывёй...“

На надворку пачуўся гоман. Зося устала і, паглядзеўшы ў вакно, прагукала:

— „Вось і нашы прыехалі“.

І абедзьве кабеты сталі прыгатаўляць вячэру.

**К. Олехновіч-Чэркас.**

# Думкі.

Душа мая ныла; хацелося прастору, веры і праўды. Была ужо ноч. Нейкая сіла цягнула мяне у лес у поле... туды дзе ня чуў бы я людзкога голасу, ад катораго занасіло дамашнімі сваркамі, дзе ня чуў-бы я нічога і нікога не бачыў.

Выйшоў я с хаты. Цёплы майскі вецярок прабег па маім гара чым твару, заварушыў мае раскіданые валасы і уцёк нейдзе далёка, далёка. Думкі мае не пабеглі за ім, а асталіся пры мне і пры маей гаротнай долі. Захінуўшыся цяплей выйшоў я ў поле. Была пекная ноч. Там, дзе вечэрам схавалося сонейко, гарэў цяпер ясны маладзік, каторы кідаў ўсё больш і больш яснасьці на нашу цемную зямлю, каб заслужыцца гэтым перэд сваім старшым братам.

Было нудна на сэрцы. Начная ціш нарушалася толькі брэхам са-

бак, ды крактаньнем жаб у балоці. Музыка іхняя працяжная і монотонная, была і прыкра і прыятна.

А потым стала ціха.—Божэ— думаў я:—чаму гэта людзі не зазнаюць шчасьця у жыцьці, чаму яно, гэта гаротнае жыцьцё гэтак запанавало над намі? Дзе-ж праўда? Дзе шчасьце???... І убачыў я гаротнаго забітаго брата-беларуса. Жыцьцё—нядоля заела яго, і цягне ён сваю лямку спакон вякоў. Бедны мужык! Хто не выежджае на тваіх крэпкіх плечах, хто ня корміцца тваей крывавай працай, тваім мазалём? Ты ня ведаеш адпачынку. ад усходу сонца і да заходу ходзіш па сваей убогай ніўцы; нудная песьня, працяжная, як хаўтурны звон, развесяляе цябе. Бедны, гаротны мой брат! Цяжка мусі табе жыць, але-ж затое маеш увагу ад людзей: яны цябе славяць, яны цябе паважаюць, бо ты хлебароб іхні. Ты даеш ім тое, без чаго ніхто ня можэ жыць. Хлеб даеш ім, а яны???...

Я апынуўся каля села. Па

нуднай вуліцы яго я прайшоўся... Сьпіць сяло. Сьпяць тые мужыкі-небаракі, што заўтра з усходам сонца, ізноў возьмуцца за саху, барану, каб карміць імі увесь сьвет, ізноў пацягнуцца нудные, цяжкіе дні...

Бедны люд... Сьпі пакуль-што моцным і добрым сном, але вер, што і ты не забыты у Бога, што і ты зажывеш чэлавечым і пекным жыцьцём.. Абач! Вось уздыймаецца на небі то адна, то другая зорка; сьвецяць яны ясна і праўдзіва; да іх прыбаўляецца ешчэ і ешчэ і наступіць гадзіна, калі асьвечэны будзеш ты, мой бедны беларускі народ! Узыйдзе сонцэ праўды і над тваей зямелькай, асьвеціць твае куткі, сагрэе тваё ахаладзелае цела і уліе новае жыцьцё ў панурую душу.

**Хвалька з Івенца.**

# Тулягі.

— Бадай цябе трасца, бадай цябе!—буркнуў Арцём і паставіў апарожненую ужо пляшку ад гарэлкі на стол.

— Ё-о-о чаго з'есьці?—вышэй крыкнуў ён п'яным голасам, адвярнуўшыся да згорбленай, забітай горэм жонкі, каторая капалася каля прыпечку,

— Эй, сьцерва, кратайся,—бо калі трэсну!—І яго кулак ужо засьвістаў у яе над вухам, як ластаўка над сваім гняздом...

Арцёміха здаўна ўжо прывыкла да яго лупцоўкі, дык і не старалася-б нават выкруціцца, але ў гэты самы момэнт з шырокаго ложка пачуўся слабы тоненькі галасок:—Пі-і-іць, мамачка, піць!...

Арцёміха падбегла да ложка, а тымчасам Арцём бразнуў дзьвярыма і выйшоў.

— Даю, Ганулька, даю!—мармартала Арцёміха і барджэй шмыг у сенцы с конаўкай за вадою.

Ганулька была дзяўчынка гадоў трынаццаці — стройненькая, пекненькая і ўжо каторы год служыла у аднаго багатаго гаспадара, бо бацькі яе чуць самі, дзед з бабай, кутам прахаваліся,—і то яна ім кожын год на Каляды грошы аддавала. Цешыліся яны дачкой сваей, але прылучылося нешчасьце Восеньню пры малацьбе Ганулька прастудзілася і захварэла. Адвязьлі яе дамоў да бацькоў. Прывялі старога знахара; даў ён ей нейкіе галачкі с хлеба, зельле; купілі ліманаду і пірага у Соркі, —але нічога не памагало. Кажэ яна, што у нутры нешта паліць, і ўсё піць хочэцца. Уся яна высахла, як лучына, а вочы бытцым вугалі гарацьь. Бывае часам, што з гарачкі яна выкідываець уселякіе штукі і непрытомна гаворыць.

Сягоньня яна толькі цяжка стогнець, лежучы на сенніку... А праз брудны кавалак шыбіны, перэкрыжованай лучынкамі, прасьвечываюцца праменьні сонейка і многа-колерны пыл тоўстым слу-

пам даходзіць аж да беднаго твару Ганулькі... Пазіраець яна на залатые праменьні, і сьлёзы коцяцца з вачэй... Вось, пачала абамлеўшымі ад смагі вуснамі нешта шэптаць ціха, слаба... Маці прыслухаецца, але ня можэ пачуць нічога.

Шэпт усё слабей, ды слабей... Гэтак сама шэпчэць іскрыпка, калі музыка прыймаець ужо смычок са струн...

Змоўкла Ганулька...

Маці даторкнулася да яе, ажно яна ўжо сьцюдзёная, як лёд. Арцёміха не плакала, не галасіла, толькі слаба крыкнула: „Ай!“— яна ўжо выплакала за свой век усе свае сьлёзы.—

Гэта ведаюць старые, сумные мо́гілкі за вёскай. Гэта ведаюць там разнарослые крыжы і крыжыкі яе дзяцей: Юзя утапіўся, Марылю кабыла забіла, Агатку яна сама прыспала на ложку, Сьцёпка так памёр ад нейкаго безгалоўя.— Мала-ж ёсць напасьцей у нешчасных, бедных вёсках?

. . . . . . . . . . . . . . . .

Як нарыхтаваная машына, Арцёміха і цяпер рабіла ўсё без цікавасьці, чула, як на хаўтурах бабы цешылі яе, ківаючы галавамі, сморкаючыся ў хусткі, ды прыгаварываючы проста з мосту:

— А ты-ж бедная, Арцёміха!

— А ты-ж ня вытрымаеш, Арцёміха!

— А як жэ-ж ты будеш жыць, Арцёміха?

— А ей-ей, Арцёміха, матачка! І шмат нагаварылі гэткіх слоў, што аж вушы вянулі. Чула Арцёміха, як на хаўтурах шаптункі вялі, што гарэлкі мала, што закусак скупа, што таго сяго не хватаець, але не цікавілася, як-бы не пра яе казана...

Ачнулася яна толькі тады, як вынясьлі дамавіну, як асталася адна, бо знядужала сама пайсьці... Азірнулася...

— Матачка Боская!...

І давай сухімі сьлезамі плакаць і прыгаварываць на распеў:

— А я-ж цябе насіла пад сэрцэм!

— А я-ж цябе гадавала, нянчыла, сьлёзкі выцірала, карміла, адзевала...

— Хадзіла на падзённую і аб табе ўсё думала.. купляла хустачкі чырвоненькіе...

— Ніхай-жэ бы ты жыла і я бы табе палатна наткала, я-ж ужо кросны прыгатавала...

— А я бы сама падставіла плечы, каб бацька мяне біў, а не цябе...

І, як галубка падстрэленая, білася, кідалася старая Арцёміха.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дзіўнай робіцца душа чэлавека у горы. Чароўным робіцца слова балючаго сэрца, даходзіць яно тады да найвысшаго хараства, да сьвятасьці і чыстаты, робіцца ўладарным над людзьмі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Плакала старая Арцёміха сухімі сьлезамі і бытцым пеяла:

— Земля—зямелька родненькая!

— А ты-ж ужо на векі прыкрыла сьцюдзёнымі грудкамі Ганульку маю...

— А ты яе на векі-на векі схавала ад сонейка!..

— Ніколі яна ўжо не адчыніць вочкі ясные— ніколі, ніколі!...

— Ніхолі галасочэк яе не засьвініць—ніколі, ніколі...

— Хай каршуны кіпцямі рвуць мае грудзі старые!

— Хай сабакі гломзаюць маё сэрцэ непатрэбнае!...

Зноў заенчыла „ай!“ і змоўкла.

Увайшоў Арцём і ціха сеў, але барджэй усхапіўся, бо вялікі галагуцкі певень ускочыў на ложка, дзе ўперад лежала Ганулька.

— Кі-і-іш-ш-ш! Кі-і і-ш-ш-ш!— і ня вытрываў...

— А бадай цябе трасца, бадай цябе!—крыкнуў ён і дзіка азірнуўся на цёмны кут ля печы.

Крыкнуў ён не на бабу сваю, як усягды, але на самога сябе. І то не! Крыкнуў ён на сваю страшэнную боль, каторая як-бы клешчамі абхапіла яго усяго...

— Бадай цябе трасца, бадай цябе!... І паваліўся на мокры гліняны памост, воб-землю і плакаў, як малое дзіцянё...

**Змітрок Бядуля.**

# Раны.

*Памяці С. Полуяна.*

Бываюць раны бо́льшые і меншые. Меншые—гояцца, і па іх знаку німа. Бо́льшые—гояцца, але па іх астаюцца рубцы.

*Гэтак на целі.*

Бываюць раны бо́льшые і меншые. Меншые—гояцца; па іх астаюцца рубцы. Бо́льшые—заўсёды крывавяцца.

*Гэтак на сэрцы.*

Бываюць раны бо́льшые і меншые.— Меншые—заўсёды крывавяцца. Большые—залечывае толькі... сьмерць.

*Гэтак на душы.*

**Ядвігін Ш.**

# Дачэсные.

З добрым сваім старым знаёмым, каторы акуратна год у год з ласкі сваей дзярэ з майго стадка па адным старым баране і па двое маладых ягнятак падатку, сустрэціўся я нідаўна ў яловым гушчарку. Ён ня быў галодны, а я—бяз стрэльбы—прычыны, як бачыце, важные, дзеля чаго маглі мы разгутарыцца паміж сабой па суседзку.

Слово за словам, дабраліся і да жыцьця суседа—воўчаго. Праўду, ці не казаў мне сусед—самі разбірайце.

Бадай усе ўжо чулі (так сама—праўду, ці не), што даўней воўк быў найлепшым хатнім прыяцелем і вартаўнікам і ў ніякіе зладзействы і зьдзірствы не ўдаваўся, ажно пакуль ня трапіў да нейкай паганай скупой гаспадынькі на службу. Дакучыло, відаць, ёй карміць хлебам зьвера, і вось аднаго разу, калі воўк, пасучы цэлую ра-

ніцу гаспадарскую стадніну, прыбег на сьнеданьне да хаты, ведзьма тая, мест хлеба цёплаго, кінула яму горача напалены камень. З голаду, не разнюхаўшы добра, схапіў бедны ваўчок гарачы камень і так моцна апёкся, што і па сягоньняшні дзень ляпа асталася чорнай. Вось с таго часу воўк з жалю і злосьці кінуў сваю службу у людзей.

Гэта старая гутарка, а цяпер паслухайце, што мой сусед баяў далей—новаго.

Адрокшыся службы, воўк пажаліўся сваім сябруком. Прабавалі тые заступіцца за яго, але нічога не дабіліся. Пайшлі тады ваўкі грамадой з жалабай да цара свайго—льва.

Леў, выслухаўшы справу, асудзіў так: „лепш жывіце ў лесі, чым у такой хаці, дзе вас могуць здрадзіць, а як усё жывоё без яды ня можэ абыйсьціся, так і вы, не пэрэбіраючы, што і чыё, хапайце і ешце; на прыпадак-жэ голаду дам вам доўгавечную карову, карміце

і дагледайце яе толькі добра, а малака—яды хвацe“.

С таго часу сталі ваўкі жыць у лесі, займацца рабункам, а да таго—даіць сваю карову і дзяліцца малаком.

Але час ад часу паміж згоднай даўней воўчай сям'і пачаліся звадкі, завялося шэльмоўства: харчэвaць карову ўсім разам прыходзілося, а як падойдзе дзяліцьба малака, дык адзін так набохаецца яго, што чуць адпаўзе, а іншы зусім с пустым жыватом пасунецца.

Каб як дарадзіць проціў гэткаго ашуканства, склікалі ваўкі сход, на каторым прызналі: на кожны дзень назначыць чароднаго ваўка, каторы-б дагледаў карову і ўдой весь ад яе забіраў сабе.

Цешыліся ваўкі с такога мудрахітраго свайго пастанаўленьня, але ня доўга. Кожны воўк, як толькі падойдзе яго чародны дзень, развaжае сам сабе: на якое ліха мне карміць гэту карову, калі з гэтаго хорчу прыбудзе малака ня

столькі мне, колькі заўтрашняму, чароднаму; хай-жэ сабе той і важдаецца з ёй, а я што выдаю—то маё.

Як сталі гэтак дагледаць сваю кароўку дачэсныя гаспадары, дык, калі не пажывяцца дзе на старане баранчыкам, ці так чым колечы, зубамі ляскаць прыходзіцца.

Вось с таго часу і налажылі ваўкі падатак на людзей: с каго авечку, с каго цялё, парасё, гусака і т. п. Апрача таго карову сваю ўсё-ж такі дояць і дояць, ды ешчэ як дояць! Ня толькі малако да чыста сцягнуць, але ціснуць, ажно пакуль да крыві не дабяруцца, дый апрача таго кожны гэткі дачэсны гаспадар неўзнак—ціхачом, а хоць кавалачэк і лыдкі з беднай жывёлы урве.

Гэткім парадкам з даўнейшаго спакойнаго працавітаго зьвера стаўся цяпер несуградны гад прагавіты—воўк.

**Ядвігін Ш.**

# Прыгонная душа.

(*Тэма запазычэная*).

Старэнькая бабуля, Аксана, што калісь, маладой будучы, была за няньку у пана Сакалоўскаго, выйшла на двор і села на прызьбі.

Стаяла весна. Быў цёплы, соўнечны дзень. Верабьі звонка шчэбеталі на вярбіне, што схілілася над старой спарахнеўшай хатай, як-бы падтрымываючы яе і не даючы ей саўсім зарыцца.

Даўнейшая панская нянька, а цяпер адзінокая бабылька, грэлася на сонцы, падстаўляючы свае старые плечы пад гарачые лучы. Твар яе быў увесь зморшчэны, падобны да печэнаго яблыка, валасы на галаве сівые.

Закрываючы ад сонца рукой свае мутные вочы, яна пазірала на хлапцоў і дзеўчат, што стаялі ўвакол яе.

— Вы хочэце, каб я расказала вам аб прыгоне. А вы-ж усяму, што раскажу вам, дасьцё веры?

Бо цяперашніе маладые людзі нічому ня верацъ, саўсім папсаваліся,—пачала бабуля сваё апаведаньне.

Дык, вось, слухайце, калі ужо дужа хочэце ведаць, як жылі у нас у дварэ.

Наш пан быў страшэнна сярдзіты. Ледзьве што якое бывала не так, крычыць: „На стайню! ўсыпаць двадцаць розаг!“ Помню, як ён памёр... Прывязлі тады да дзяцей немку. Я гэта увайшла у каморку, гляджу, а немка нейкіе іголкі разсыпала дый падбірае.— „Што ты гэта тут, кажу, нямецкая морда, робіш? А?!!“ Твар у яе якісь нядобры і якіесь незразумелые словы кажэ мне. Я адразу пайшла да пані і ўсё расказала— і аб незразумелые словы і аб усё. А паня толькі сьмяецца. Ну, і што-ж вы думаеце? Праз два дні стары пан і захварэў. Колець яго з усіх бакоў. А я то добра ведаю, што яго колець. Кажу пані: „прымусьце чортаву немку, каб аддала гэтые іголкі, ды у ваду з сі-

нім каменём іх палажыце, ды дайце вы гэнаго сіняго каменя выпіць пану, дык у яго ўсё калацьцё на верх іголкамі вылезе. Не, не дала веры! Вось і памёр. Ці-ж паны дадуць веры? Колькі іх бачыла,— усё такіе...

... Быў у нашых паноў кухар, адукаваны, трыста рублёў пан за яго заплаціў, сталога купіў. Дык кухар гэты быў гэткі благі для нас, што наўмысьля нам у хлеб тараканоў запекаў. Плачэм, а сказаць баімся, бо пан яго дужа любіў...

... Хустачку паня наша вышывала два гады; чатыры анталяжніцы іголачкамі плялі, кожная свой ражок. Паня наша, на што казаць, вельмі разумная была. Ніколі дзяўчыну па правай руцэ не ўдарыць, дзеля таго, што ўсе мы ў яе анталяжніцы былі; ну, а левую руку, бывала, сашчыпець, ай, як сашчыпець; у кожнай левая рука, як рэшэта, шэрэнькая. У нас усе дзеўчаты крывабокіе былі. С пяці гадкоў за кросенцы садзілі, —правае плячо уверх, а левае у

ніз, левай рукой з нізу іголку падтыківаеш. У дзявоччую каморку да нас любіў захадзіць паніч і жартаваў з дзеўчатамі, каторые былі прыгажэй. Прыехаў раз с палка, вывалок Кацярыну за косы у сьпіжарню, клычыць яе дый крычыць: „Сьпевай мне, мая красуня, варшаўскіе песьні!“ Кацярыні было усяго шэснадцаць гадкоў —дурная, напужалася. А паніч блізка ўсю ноч трымаў яе у сьпіжарні, змардаваў саўсім.

На другі дзень была, як атручэная; тры дні ў сябе не прыхадзіла. Але каб толькі-ж гэтым і скончылося, дык дзе там.. А панічу што? Праз колькі дзён гэтак сама было і з Матрунай, дый з другімі. Паніч троху змяніўся толькі пасьля свайго вясельля...

...Сталі у мяне, мае вы дзеткі, балець вочы, тады аддала мяне паня панічовай жонцы за няньку. Добрая была маладая паня, кволая ўся. Усё на цыпачках хадзіла, як анёл. Тоненькая такая, як саломінка. А сам малады пан дужа

сярдзіты быў, у бацьку ўдаўся. Як пачне каго біць, аж заходзіцца ўвесь. Але, мае вы кветачкі, да маладой пані нашай чужы пан хадзіў. І лісты ей пісаў. Лісты яна мне хаваць давала, бо непісьменная я, сама не прачытаю і людзём не пакажу. Дужа верыла мне. Вельмі яе любілі ўсе. Адна наша заступніца яна была. Бывала, за кожнаго апошняго мужыка у пана ў нагах поўзаець. Вось раз нарыхтаваўся пан вечэрам у госьці. А лякай Навум і кажэ мне: „Глядзі, нянька, я не я буду, калі сягоньня дзесяці рублёў не зараблю“. Паехалі. Да пані госць прыйшоў. Сідзяць гэта яны у дваіх, размаўляюць. А Навум, ад'ехаўшы колькі вёрст, і кажэ пану: „Нам бы, паночэк, цяпер да дому звертацца, паглядзець-бы, як у нас вечары спраўляюцца“. Вярнуўся пан зьвер-зьверэм. Начыньне ўсё перабіў. А госць патрапіў такі неяк уцячы. Чую я с каморкі, як пан завінуўся. Ну, думаю, прыйшла наша гадзіна пакаянная. Па-

чэкала троху, але ўзяла ўсе лісты паніны, пабегла да пана ды бразь у ногі. Так вось і так. Супроціў пана майго я вось ня згубніца. І—і, Божухна! Што тут толькі было!... Пасьля гэтаго здарэньня паня наша, анёл наш, і году не працягнула. Заеў ён яе гэтымі лістамі. А Навуму лоб абгаліў і ў салдаты аддаў. Колькі сьмеху было— хі-хі-хі! Вось табе і зарабіў дзесяць рублёў!

Памёрла мая паня, сьветлая ты мая панячка, заступніца наша. Пэўне і ў рай-то увайшла на цыпачках. Вось, памру, мае дзеткі, і я цяпер, апрануць цела маё у апратку сьмяротную, палажаць у сьвежую яму на магільніку, а сама я ў рай пайду, і спаткае мяне там мая паня кволая і прад Богам заступіцца. „Вось, скажэ, Божухна, прыйшла нянька мая, Аксана, верная слуга мая, прыгонная душа. Дай Ты ей, Божухна, мейсцечка пад пазухай, каб яе душачка у цяпле распарылася, у выгодзі пакачалася“.

**Янук Журба.**